# Голас Радзімы

№ 32 (2070)
11 жніўня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




І. Слонім, напэўна, можна было б прадставіць больш выгадна і эфектна: у яго ёсць і свая галоўная магістраль, на якой бачны сляды даўніны, і новы мікрараён, у якім пануе гармонія шматпавярховых гмахаў. Але для сэрца Сямёна Шэйпы з канадскага Ванкувера, Алены Шэўчык, якая жыве ў Бразіліі, і соцень іншых выхадцаў са Слонімшчыны, раскіданых ад яе далёка, мілы будзе менавіта гэты куток горада. Аднапавярховыя ўтульныя дамкі купаюцца ў раскошы летніх садоў. Пахне бульбай і кропам: гарод ля самага парога. Цешаць вока флёксы ды вяргіні пад вокнамі. Такіх кварталаў большасць у гэтым тыповым сельскім горадзе. Але з мікраённам у іх ёсць адно агульнае — яны таксама новыя, сучасныя, з усімі, даступнымі нашаму чалавеку зручнасцямі.

Афіцыйна метрыка Слоніма — Іпацьеўскі летапіс — сцвярджае, што гораду над Шчарай ідзе восьмае стагоддзе. Але археалагічныя раскопкі замчышча, праведзеныя яшчэ ў 1959 годзе, даводзяць, што ўжо ў XI стагоддзі тут было паселішча. У гісторыі занатаваны і імгненні ўзлёту, і доўгія гады правінцыяльнага існавання. У канцы XVII стагоддзя нейкі час, даволі кароткі, Слонім быў губернскім горадам. Але вялікую частку свайго веку ён хадзіў у рангу павятовага. І па афіцыйнаму статусу, і па зместу жыцця.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## ЗДАРОЎЕ — ПЕРШЫ КЛОПАТ

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі прыняў пастанову аб перадачы ўстановам аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння вызвалянемых адміністрацыйных і іншых будынкаў. Гэта рэальны крок да ажыццяўлення праграмы «Здароўе», якая распрацоўваецца ў рэспубліцы.

У Гомельскай і Магілёўскай абласцях выяўлены памяшканні адпаведна для 56 і 42 розных медыцынскіх устаноў. У Магілёве 14-павярховы будынак абласнога аддзялення Дзяржбанка СССР, які цяпер узводзіцца, будзе выкарыстаны пад абласны дыягнастычны цэнтр. У Гомелі для расшырэння паліклінікі аддадзены адміністрацыйны корпус завода заточных станкоў.

Адно з памяшканняў Дзяржплана БССР перадаецца новастворанаму Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту радыяцыйнай медыцыны. Будуемы адміністрацыйны будынак трэста «Палацкводбуд» вырашана перадаць раённай дзіцячай паліклініцы. У калгасе імя Леніна Мазырскага раёна ў будынку праўлення калгаса цяпер абсталёўваецца медыцынскі кабінет для абслугоўвання дзяцей.

У сувязі са скарачэннем колькасці кіраўніцкага апарату і рэканструкцыяй вытворчых збудаванняў усяго цяпер у Беларусі вызначана да перадачы ўстановам аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння больш як 130 будынкаў і збудаванняў.

Так на справе ажыццяўляецца адзін з галоўных лозунгаў перабудовы аб сацыяльнай справядлівасці ў нашым грамадстве.

ДЗЕЛАВЫЯ КАНТАКТЫ



**Адной з прыкметных адзнак паляпшэння савецка-амерыканскіх адносін стала пашырэнне і развіццё супрацоўніцтва ў розных галінах навукі і тэхнікі. Карысныя дзелавыя кантакты ўсталяваліся паміж вучонымі Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР і навуковымі цэнтрамі ЗША. Умацаванню іх служыць і прыезд у Гомель групы амерыканскіх вучоных. Яны абмяркоўваюць шляхі далейшага пашырэння супрацоўніцтва, рыхтуюць да выдання раздзелы сумеснай савецка-амерыканскай кнігі па трыбалогіі (трэнне і знос цвёрдых целаў). А ў ЗША, у выдавецтве «Алертон прэс», друкуецца савецкі часопіс «Трение и износ», які выдаецца на базе Інстытута металапалімерных сістэм. У гэтым жа выдавецтве падрыхтавана да друку кніга гомельскіх вучоных, прысвечаная метадам дыягностыкі вузлоў трэння машын.**

**НА ЗДЫМКУ: пра распрацоўкі сваіх лабараторый расказвае гомельскім калегам прафесар Мічыганскага універсітэта Кенэт ЛУДЭМА.**

ДЭЛЕГАЦЫІ

## В'ЕТНАМСКІЯ ЮРЫСТЫ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя юрыстаў Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам на чале з намеснікам Старшыні Нацыянальнага сходу СРВ Фыонг Ван Тыу. Дэлегацыя прыбыла ў нашу краіну па запрашэнню Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. У гутарцы, якая прайшла ў сяброўскай атмасферы, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Г. Таразевіч азнаёміў гасцей з дзейнасцю органаў народнай улады Беларусі, іх удзелам у вырашэнні актуальных задач сацыяльна-эканамічнага развіцця, дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі.

В'етнамскія госці мелі сустрэчу ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Яны зрабілі азнаямленчую паездку па гораду, пабывалі ў Доме-музеі І з'езда РСДРП, на ВДНГ БССР.

У праграме знаходжання гасцей была і сустрэча ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі, наведанне музеяў.

АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ

## УСЕ Ў ВОДПУСК

Абсталяванне прастойвае без работы, пустыя цэхі — так выглядае ў гэтыя дні вытворчае швейна-трыкатажнае аб'яднанне ў Жодзіне. Непрывычная для чужога вока карціна не ўспрымаецца на прадпрыемстве як нешта недарэчнае. Калектыў швачак адначасова пайшоў у адпачынак.

І такі графік водпускаў будзе дзейнічаць да канца лета, пакуль не адпачнуць большасць рабочых. Ды і тыя нямногія, што засталіся ў цэхах, атрымалі летнія льготы: выхадныя ў іх цяпер па суботах і нядзелях, а не па «зменнаму» графіку. Гэтаму асабліва рады жанчыны: павілася магчымасць больш удзяляць увагі дзецям, сямейным справам.

Агульны адпачынак вытворчасці не перашкода. За гэты час рамонтнікі без мітусні і спешкі правядуць штогадовую прафілактыку машын. Калі швачкі вернуцца з водпуску, свежыя пасля касметычнага рамонту памяшканні створаць ім працоўны настрой. Такі клопат спрыяльна адбіваецца на людзях — у аб'яднанні прыкметна скарацілася цякучасць кадраў, пасяхова выконваюцца вытворчыя заданні.

ПАДСОБНЫ ПРОМЫСЕЛ

## МАСКВА — ПАСТАВЫ

Аб падсобных промыслах калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна ідзе добрая слава. Вялікім попытам у насельніцтва карыстаюцца поліэтыленавыя мяшочкі, дублёнкі з аўчыны і іншыя тавары, якія выпускае гаспадарка. Падсобныя цэхі даюць больш як мільён рублёў чыстага прыбытку.

Нядаўна ў калгасе адкрыўся новы цэх — па вытворчасці адлівак, выпуску тавараў народнага ўжытку. Ён з'яўляецца філіялам Маскоўскага машынабудаўнічага аб'яднання «Авангард». Ліцейны цэх на сяле пабудаваны з дапамогай сталічных спецыялістаў, аснашчаны неабходным абсталяваннем і разлічаны на 40—50 работнікаў. Выпушчана ўжо пробная партыя прадукцыі — адліўка часткі сувеніра «Рускі волат». Распрацоўваюцца ўзоры іншых тавараў. Мяркуецца ў бліжэйшы час давесці гадавы аб'ём іх вытворчасці да двух з паловай мільёнаў рублёў.

ДАСЛАНА З-ЗА МЯЖЫ

## ДОБРЫЯ ЯГАДЫ ЖУРАВІНЫ!

**У маі высаджаны чаранкі буйнаплодных журавін на шасці гектарах вопытна-прамысловай плантацыі ў Пінскім раёне. Меліяратары рыхтуюць яшчэ ўчастак каля вёскі Селішча пад гэтую ягадную культуру.**

**На 36 гектарах падсобнай гаспадаркі Галоўпалессеводбуда высаджаны чаранкі гатункаў з замежнымі назвамі. Па ўзгадненню пасадачны матэрыял прыслала адна з фірм ЗША. Ад гэтых высокаўраджайных гатункаў можна збіраць да дзесяці тон ягад з гектара на працягу амаль стагоддзя.**

**Своеасаблівы і працэс збору ўраджаю. Чэкі з паспелымі журавінамі запаўняюць вадой. Пасля гэтага спецыяльнае ўстройства акуратна збівае ягады, і яны ўсплываюць на паверхню. А тут іх ужо чакаюць кантэйнеры.**

ДЛЯ СЯБЕ І НА ЭКСПАРТ



**Багаты асартымент посуду і сувеніраў выпускае шклозавод «Нёман». Выдатная якасць прадукцыі спрыяе яе папулярнасці ў пакупнікоў. Штогод больш чым на тры мільёны рублёў вырабаў адпраўляе прадпрыемства ў ФРГ, ЗША, Канаду і іншыя зарубежныя краіны.**

**НА ЗДЫМКУ: задаволена якасцю вырабаў кантралёр цэха выпрацоўкі Марына ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

## БССР — ПНР: СУВЯЗІ ПАШЫРАЮЦЦА

У МІНСКІМ ДОМЕ КНІГІ АДБЫЛАСЯ ДЭКАДА КНІГІ І ВЫСТАЎКА ПЛАКАТА ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, АРГАНІЗАВАНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫМ КАМІТЭТАМ БССР ПА СПРАВАХ ВЫДАВЕЦТВАЎ, ПАЛІГРАФІІ І КНІЖНАГА ГАНДЛЮ СУМЕСНА З БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВАМ ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАРУБЕЖНЫМІ КРАІНАМІ.

У кніжным магазіне «Дружба» ў дні дэкады быў арганізаваны расшыраны продаж літаратуры на польскай мове. Больш за семсот назваў твораў класічных і сучасных пісьменнікаў Польшчы, навукова-тэхнічнай, мастацтвазнаўчай, спецыяльнай і дзіцячай літаратуры былі прапанаваны пакупнікам.

А ў Польшчы напярэдадні нацыянальнага свята — Дня адраджэння ў прыгранічным ваяводскім цэнтры Бяла-Падляска адкрыўся фестываль фальклорных ансамбляў. Сюды з'ехаліся этнаграфічныя калектывы з усяго ваяводства, а таксама госці з Аўстрыі, Італіі і Савецкага Саюза.

У праграме фестывалю — «Дні беларускай кухні». У мясцовы рэстаран «Стылева» прыехала 15 повараў і афіцыянтаў з Брэста, якія прапанавалі шырокі выбар беларускіх страў. Трапіць у рэстаран было цяжка. З раніцы да вечара стаялі доўгія чэргі жадаючых пакаштаваць разнастайныя мясныя, бульбяныя, а таксама стравы з грыбоў, сабраных у лясах Беларусі. І яшчэ адзін прыклад узмацнення сувязей і кантактаў паміж дзвюма суседнімі краінамі.

Не пакідаючы кватэр, жыхары Гродна могуць цяпер перагаварваць са сваякамі і знаёмымі з Польскай Народнай Рэспублікі. Варта набраць пэўны нумар тэлефона, і вам адкажуць абаненты ў Варшаве, Беластоку, Вроцлаве, Кракаве, Шчэціне і яшчэ ў добрым дзесятку іншых гарадоў брацкай краіны.

ПА ЯГАДЫ, ФРУКТЫ, ГАРОДНІНУ МНОГІЯ ЖЫХАРЫ ПІНСКА НАКІРОЎВАЮЦЦА Ў ГЭТЫЯ ДНІ НЕ НА РЫНАК, А Ў МЯСЦОВЫЯ ГАРОДНІННЫЯ МАГАЗІНЫ.

Памідоры, яблыкі, вішні, якія пастаўляюць гараджанам садаводы і агароднікі Польскай Народнай Рэспублікі,— па-за канкурэнцыяй па якасці і цане. Уся прадукцыя паступае па прамых сувязях паміж Пінскай гандлёвай арганізацыяй і кааператывам у Бяла-Падлясцы па закупцы і збыту плодаагароднінай прадукцыі. У аснове дагавора — раўнацэнны тавараабмен. У польскіх кааператараў вялікай папулярнасцю карыстаюцца вырабленыя ў Беларусі сокі, рыбныя кансервы. Праграма такога абмену разлічана на ўвесь летне-асенні сезон.

АДРАЗУ НА ДВА ВЕРНІСАЖЫ ЗАПРАСІЛІ МАГІЛЯЎЧАН ПОЛЬСКІЯ СЯБРЫ З ВЛАЦЛАВЕКА, ГОРАДА-ПАБРАЦІМА НАШАГА АБЛАСНОГА ЦЭНТРА.

Персанальная выстаўка работ сучаснага мастака Здзіслава Шміта і экспазіцыя влацлаўскага фаянсу былі прысвечаны арганізатарамі нацыянальнаму святу братняй рэспублікі — Дню адраджэння Польшчы. Беларускія аматары мастацтва ўжо знаёмы з работамі З. Шміта. Зараз яго творчасць прадстаўлена больш поўна — звыш пяцідзесяці лепшых твораў, сярод якіх пейзажныя палотны аб родным краі, аб вялікай польскай рацэ Вісле.

Цікавасць выклікала і выстаўка фаянсу. Влацлавек здаўна славіцца як вядучы цэнтр па яго вытворчасці. У музеі Куяўскай і Дабжынскай земляў сабрана 13 000 работ мясцовых майстроў фаянсу. З гэтай вялікай калекцыі звыш чатырохсот работ сёння выстаўлена ў Магілёве.

Польскія выстаўкі будуць дэманстравацца ў абласным цэнтры на працягу месяца, а затым пераедуць у Бабруйск. Яны арганізаваны ў адпаведнасці з праграмай двухбаковага супрацоўніцтва гарадоў-пабрацімаў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. Малады матэматык з Англіі, журналіст з Каліфорніі, студэнт з Каталоніі... юнакі і дзяўчаты з Швейцарыі, ФРГ, Фінляндыі — такі састаў рабочай групы добраахвотнікаў, што прыбылі ў Мінск.

Яна ўвальецца ў студэнцкі атрад Мінскага педагагічнага інстытута «Дружба».

МАЛАДЗЕЧНА. Першую партыю дзіцячых куртак з начосанага трыкатажнага палатна адправіў у гандлёвую сетку калектыў швейнай фабрыкі вытворчага аб'яднання «Камсамолка». Цяпер калектыў швейнікаў рыхтуецца да выпуску новых мадэлей дзіцячых суканак і камплектаў з баваўнянага трыкатажнага палатна. За першае паўгоддзе асартымент швейных вырабаў абнавіўся амаль на 80 працэнтаў.

БАРАНАВІЧЫ. Пасёлак Краснaзнаменскі яшчэ не нанесены на карту рэспублікі. Але яго будучыя жыхары — работнікі Баранавіцкага прыгараднага цыплячнага камбіната ўжо атрымалі ключы ад кватэр.

У Краснaзнаменскім намечана пабудаваць каля сотні дамоў з гарадскімі зручнасцямі.

ГОМЕЛЬ. Свежымі і сакавітымі дастаўляюцца цяпер памідоры, агуркі, капуста ў гомельскія магазіны.

Адразу на градках агародніную прадукцыю загружаюць у кантэйнеры, а спецыяльныя аўтамабілі ў лічаныя гадзіны дастаўляюць іх на назначэнню. Прадаўцам застаецца ўкаціць кантэйнеры ў гандлёвую залу, дзе пакупнікі самі выбіраюць патрэбны ім тавар.

*ПРАЦОЎНЫЯ РЭСУРСЫ РЭСПУБЛІКІ*

# РЭФОРМА ЗАКРАНАЕ ЎСІХ

**Савецкія сродкі масавай інфармацыі даволі часта паведамляюць, што ў краіне існуе дэфіцыт працоўных рэсурсаў. Што можна сказаць у сувязі з гэтым пра нашу рэспубліку! Ці сапраўды рабочых месцаў больш, чым прэтэндэнтаў на іх! Чаму так атрымліваецца і якая рэформа ў галіне працаўладкавання чакае нас! На гэтыя пытанні нашага карэспандэнта адказвае першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта БССР па працы Мікалай ШАВАНДА.**

— Так, сапраўды, дэфіцыт працоўных рэсурсаў на працягу некалькіх пяцігодак стаў аб'ектыўнай рэальнасцю і для Беларусі. У апошнія гады ў нас пастаянна адкрытыя 60—70 тысяч свабодных рабочых месцаў і вакансій спецыялістаў і служачых. У чым прычына? Яна, безумоўна, не адна. Але галоўная тая, што пашырэнне вытворчасці апярэджвала прырост працоўных рэсурсаў. Такое становішча ўзнікла з-за пралікаў у палітыцы размяшчэння новай вытворчасці, незбалансаванасці з прыростам працоўных рэсурсаў. Статыстыка гаворыць: толькі за перыяд з 1986 года па 1990-ты ў Беларусі з'явіцца яшчэ вельмі многа новых рабочых месцаў. А вольных людзей для працы на іх значна менш. Наогул, у рэспубліцы сёння дасягнуты вельмі высокі, а з эканамічнага пункту погляду гранічны ўзровень занятасці: 95 працэнтаў працаздольнага насельніцтва занята ў народнай гаспадарцы або вучацца. Становішча ўскладнілася яшчэ і тым, што на дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі працягваюць адбівацца вынікі фашысцкай агрэсіі 1941 — 1945 гадоў. Здаецца, колькі часу мінула! Але, напрыклад, у Віцебскай і Магілёўскай абласцях, якія найбольш пацярпелі ў вайну, і па сёння адчуваецца найбольш востры недахоп працоўных рук.

*— Вынікае, што рэзерву працоўных рэсурсаў мы практычна не маем?*

— Да нядаўняга часу гэта было сапраўды так. Але трэба было шукаць выйсце.

Ні для кога са спецыялістаў не заставалася сакрэтам, што дэфіцыт працоўных рэсурсаў узмацніўся і недакладнасцю эканамічнага механізма, калі экстэнсіўныя метады развіцця гаспадаркі пераважалі над інтэнсіўнымі. У выпраўленні гэтага хіба хаваўся вялікі патэнцыял. Ну і, безумоўна, у пераразмеркаванні працуючых з адных сфер у іншыя.

Вядома, што сфера паслуг у параўнанні з матэрыяльнай вытворчасцю была ў нас у ролі падчаркі каля злой мачыхі: у Беларусі ў гандлі і абслугоўванні працуе ўсяго чвэрць занятага насельніцтва. У многіх жа развітых краінах тут занята амаль палова ўсіх працоўных. Такая сістэма, што склалася ў нас, не можа не пагаршаць умовы жыцця народа. З ёю трэба развітацца.

*— Якім жа чынам будзе ісці пераразмеркаванне?*

— Гэты працэс не трэба разглядаць, як чыста механічную акцыю або аднаразовую кампанію. Папярэдне абавязкова трэба стварыць эканамічныя, арганізацыйныя і тэхнічныя ўмовы для выслабанення і толькі тады весці пераразмеркаванне.

*— У сувязі з гэтым колькі чалавек страцяць свае сённяшнія рабочыя месцы? Хто будзе звольнены ў першую чаргу: моладзь ці пажылыя людзі?*

— У Беларусі на час укаранення новага гаспадарчага механізма, г. зн. да 1990-га года, па падліках, будзе выслабанена з прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і пераразмеркавана каля 200 тысяч работнікаў. Акрамя таго, дзеля ўдасканалення работы органаў кіравання апарат міністэрстваў, ведамстваў, аб'яднанняў і прадпрыемстваў скароціцца больш чым на 20 тысяч чалавек.

Аднак, на мой погляд, сама пастаноўка пытання, хто будзе звольнены ў першую чаргу — моладзь або пажылыя людзі, неправамерная. Асноўным крытэрыем пры выслабаненні будзе ні ў якім разе не ўзрост, а эфектыўнасць і прадукцыйнасць працы кожнага чалавека. Гэтае палажэнне замацавана, дарэчы, і законам. Закладзены ў ім і прынцыпы сацыяльнай справядлівасці пры данай няпростай сітуацыі. Напрыклад, пры іншых роўных умовах перавагай карыстаюцца тыя людзі, што маюць некалькіх утрыманцаў, адзінокія жанчыны, якія выхоўваюць непаўналетніх або непрацаздольных дзяцей, работнікі з вялікім стажам працы, асобы перадпенсійнага ўзросту.

*— Але давайце разгледзім сітуацыю, калі чалавека ўсё ж звольнілі па скарачэнню штатаў. Якія сацыяльныя гарантыі для гэтых людзей?*

— Што ж, у такое становішча трапіць дастаткова работнікаў, і гэта, натуральна, ні ў кога радасці не выкліча. Але... Усім выслабаненым гарантуецца права на працу. Гэта, лічу, самае галоўнае. На практыцы кожнаму будзе прапанавана новая работа на тым жа прадпрыемстве або на іншым па ранейшай спецыяльнасці. Разам з тым не выключаецца магчымасць і перавучвання.

Акрамя таго, усім, скажам так, «скарочаным» прадастаўляюцца пэўныя льготы і кампенсацыі: выплачваецца выхадная дапамога, захоўваецца на некалькі месяцаў, пакуль чалавек не стане зноў працаваць, сярэдняя заработная плата...

Між іншым, аб маючым быць выслабаненні работніка асабіста папярэджваюць не пазней, чым за два месяцы да звальнення.

*— Які ж орган вырашае, каго канкрэтна прыйдзецца звальняць?*

— Такое рашэнне прымае спецыяльная камісія, у якую ўваходзяць прадстаўнікі адміністрацыі, прафсаюзнага камітэта і савета працоўнага калектыву.

*— Ці пачаўся ўжо працэс упарадкавання рабочых месцаў?*

— Так, ён ідзе на працягу паўтара года, і ўжо выслабанена і пераразмеркавана амаль палова работнікаў з усёй плануемай іх колькасці. Які ж іх далейшы лёс? Практычна кожны другі працуе на тым жа прадпрыемстве, што і дагэтуль, але на іншым рабочым месцы ў новых цэхах, падраздзяленнях сферы паслуг або пераведзены ў тым жа горадзе на роднасную вытворчасць. Чвэрць звольненых былі ўладкаваны з дапамогай мясцовых бюро па працаўладкаванню. Астатнія знайшлі сабе работу самастойна: пакуль яшчэ ў нас выбар свабодных месцаў разнастайны.

*— Як вы лічыце, ці многа будзе ўзнікаць канфліктаў паміж адміністрацыяй і кандыдатамі на выслабаненне? Хто павінен разглядаць такія сітуацыі?*

— І тут пэўны вопыт ужо ёсць. Мы лічым, і небеспадстаўна, што папярэдне праведзеная вялікая і карпатлівая работа дае магчымасць вырашаць усе далікатныя, вельмі няпростыя праблемы са скарачэннем штатаў без вялікіх сацыяльных выдаткаў. Шмат залежыць тут ад самога працоўнага калектыву, ад здольнасці кожнага мясцовага прафсаюзнага камітэта абараняць законныя правы і інтарэсы работнікаў, не дапускаць суб'ектывізму, выпадкаў помсты. Ну, а пра эканамічныя і юрыдычныя гарантыі я ўжо казаў. Але, на жаль, на практыцы зусім пазбегнуць канфліктаў не ўдаецца. Напрыклад, падчас вядомага эканамічнага эксперымента на Беларускай чыгунцы было скарочана прыкладна 12 тысяч работнікаў. З іх трыццаць пяць чалавек палічылі сваё звальненне незаконным і звярнуліся за дапамогай у суд. У пяці выпадках суд аднавіў людзей на іх ранейшых месцах работы.

Ёсць і больш «свежыя» прыклады. У першую чаргу такія выпадкі здараюцца на невялікіх прадпрыемствах і ва ўстановах. Скажам, у Рэчыцы работніка звольнілі па скарачэнню штатаў, хаця яго рабочае месца не падлягала скарачэнню. У Мінскім раёне чалавека звольнілі без згоды прафсаюзнага камітэта. Па рашэнню суда і першы, і другі звольненыя былі вернуты на свае ранейшыя месцы работы. Прычынай узнікнення ўсіх канфліктаў стала парушэнне заканадаўства.

Хачу зазначыць, што вырашэнне канфліктаў праз суд — крайняя мера. Ёсць іншыя сродкі, як прыйсці да згоды ў самім працоўным калектыве: праз камісію па працоўных спрэчках, прафком...

*— Мікалай Сідаравіч, апошняе пытанне. Ці чакаецца ўпарадкаванне рабочых месцаў у самім Дзяржкамітэце БССР па працы?*

— Безумоўна. Якраз зараз гэты працэс ідзе найбольш актыўна. Наш штатны расклад змяншаецца роўна напалову. Рэформа закранае ўсіх.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**




**II. Усё, што было з іх горадам, з іх зямлёй, з іх продкамі, захоўваюць у памяці слонімцы. Але найбольш ганарацца яны старонкамі гераічнага летапісу: удзел у рэвалюцыйных падзеях 1917 года, ва ўсталяванні Савецкай улады на Слонімшчыне. Пазней, у гады польскай санацыі, — змаганне за сваю нацыянальную годнасць і свабоду; самаадданая барацьба з ворагам падчас фашысцкай акупацыі Беларусі.**

**Чым жа сёння жывуць слонімцы! Памятаючы і ахоўваючы сваю гісторыю, яны, вядома ж, рупяцца найперш пра тое, каб мець сучасны ўзровень матэрыяльнага дабрабыту і культуры — добры дом ці кватэру, многія не адмовяцца ад машыны, больш зарабляць і больш спажываць. Звычайныя чалавечыя клопаты. Перабудова, якая пачалася тры гады назад у краіне, улічвае гэтыя імкненні чалавека працы ў сваёй сацыяльнай праграме. Пра гэта, дарэчы, шмат было сказана і на XIX партыйнай канферэнцыі.**

**А яшчэ рабочыя Слоніма — гэтага развітога прамысловага цэнтра Гродзеншчыны — дбаюць, каб усё, зробленае іх рукамі, прыносіла людзям радасць. І не толькі ў Беларусі, але і ўсюды, куды ідуць вырабы тэкстыльнай і мэблевай фабрык, аўта- і маторарамонтнага заводаў, фабрыкі мастацкіх вырабаў, ільнозавода, мясакамбіната і шэрагу іншых прадпрыемстваў. Каб можна было з гордасцю сказаць: «Гэта зроблена ў Слоніме!»**







**НА ЗДЫМКАХ: Фёдар Дарафеевіч КАВАЛЕЎСКІ, можна сказаць, жывая гісторыя Слоніма: былы член Кампартыі Заходняй Беларусі, ён змагаўся за яе лепшую долю, а ў незабыўным 1939-м браў удзел у рабоце Народнага сходу, які вынес рашэнне аб усталяванні Савецкай улады ў Заходняй Беларусі і ўз'яднанні яе з БССР. У змрочныя гады фашысцкага нашэсця быў членам падпольнага райкома партыі, узнімаў людзей на барацьбу з акупантамі; у магазінах Мінска, іншых нашых гарадоў попыт на слонімскую мэблю не меншы, чым на якую-небудзь імпартную; у апошнія гады такія дачныя пасёлкі наўкол Слоніма сталі расці, як грыбы: мясцовыя ўлады заахвочваюць развіццё садаводчых кааператываў.**

# НЯМА ГАЛОЎНАГА ПРАВА

У другой палове нашага дваццатага стагоддзя сталі вельмі моднымі размовы пра дэмакратыю і правы чалавека. Гэта і зразумела. З прагрэсам у тэхніцы расце ўсеагульны дабрабыт, людзі жывуць лепей, але не ўсе. Вось і ўзнікаюць пытанні аб сацыяльнай справядлівасці. Пры капіталізме адны жывуць за кошт эксплуатацыі другіх. У тых краінах, дзе працоўныя яшчэ не змаглі абараніць свае правы, узнікаюць жорсткія дыктатуры. Як, напрыклад, у Чылі, Сальвадоры, Паўднёвай Афрыцы і некаторых іншых.

У Бельгіі рабочыя і прагрэсіўныя сілы сваёй упартай барацьбой дамагліся для сябе многіх дэмакратычных правоў. Напрыклад, права голасу, свабоды слова і друку, права на навучанне і сацыяльнае забеспячэнне, раўнапраўе жанчын з мужчынамі і г. д. У бельгійскай канстытуцыі гаворыцца: усе бельгійцы раўнапраўныя. Але на практыцы, каб карыстацца ўсімі гэтымі правамі, патрэбны яшчэ і фінансы. Грашыма вымяраецца ступень свабоды і роўнасці для кожнага. Вось прыклады. Усе маюць права вучыцца ў вышэйшых навучальных установах, але трэба мець магчымасць плаціць за гэта. Усе маюць права лячыцца ў лепшых спецыялістаў у лепшых клініках, але за лячэнне таксама трэба плаціць. Усе могуць паехаць у якія хочуць краіны, але і на гэта трэба мець шмат грошай...

Аднак самае галоўнае права — права на працу — адсутнічае. А калі няма работы, няма і грошай. І сотні тысяч беспрацоўных жывуць у цяжкіх умовах, і ніякая краіна не жадае прымаць да сябе такіх людзей, хоць яны і маюць права на выезд. А за грошы ў Бельгіі ў многіх выпадках можна нават адкупіцца ад турмы. Роўнасць жанчын з мужчынамі існуе толькі на дзяржаўных прадпрыемствах. Але іх няшмат, а прыватныя прадпрымальнікі плацяць жанчынам значна менш. Мнагадзетныя сем'і рабочых не могуць даць вышэйшай адукацыі сваім дзецям. І так з пакалення ў пакаленне многія сем'і застаюцца ў беднасці, і іх дзеці не могуць «выйсці ў людзі». Прыкладаў можна прыводзіць шмат, але ўсё зводзіцца да аднаго — да грошай.

У Савецкім Саюзе, наадварот, лячэнне і навучанне бясплатныя і даступныя для ўсіх. Студэнтам нават плацяць стыпендыі. У СССР няма беспрацоўя. А гэта азначае, што працавіты, старанны чалавек заўсёды мае магчымасць добра зарабляць. Не пагражае беспрацоўе і яго дзецям.

Вядома, чытаючы савецкія газеты, мы бачым, што яшчэ шмат непрыемнасцей ідзе ад бюракратыі, ад тых, хто не хоча сумленна жыць і працаваць. Але ж менавіта з гэтым змагаецца перабудова. І мы ўпэўнены, што з часам савецкая дэмакратыя стане адной з самых поўных і справядлівых у свеце. А колькі Савецкая дзяржава траціць грошай на жылыя дамы! У СССР самая нізкая кватэрная плата ў свеце. А ў Бельгіі на гэта ідзе палова зарплаты. І камунальныя паслугі аплачваюцца па вельмі дарагой цане. Не дзіўна, што ў Бельгіі шмат бяздомных, а дамы і кватэры пустуюць. Усяго хапае, а людзі жывуць у галечы. І зноў тая ж прычына — беспрацоўе, даўгі, хваробы, сацыяльная несправядлівасць. Усё гэта вядзе многіх бельгійцаў да разарэння.

Я пішу пра тое, што бачу, чую вакол сябе, чытаю, гляджу па тэлевізары, чым жыла і жыву вось ужо сорак тры гады ў гэтай краіне. Ну а што датычыць дэмакратыі і правоў чалавека — усё гэта тэарэтычна ў Бельгіі ёсць.

**Марыя ГАРОХ.**

Бельгія.

# ГАРАНТЫЯ ДЭМАКРАТЫІ

Што можам мы, простыя людзі, гаварыць пра дэмакратыю? Наогул я асабіста ніколі яе асабліва не адчуваў. Мне здаецца, што на нашай Радзіме сапраўды ідзе вялікі працэс дэмакратызацыі грамадства. Гэта добра бачна па тым, што пішацца ў савецкіх газетах. Зараз вельмі шмат друкуецца крытычных матэрыялаў аб розных недахопах, раскрываюцца раней невядомыя негатыўныя з'явы ў гісторыі краіны і даецца ім ацэнка. Кожны нармальны чалавек разумее, што робіцца гэта для таго, каб недахопы выкараніць, а негатыўныя з'явы больш не паўтараліся, каб грамадства стала сапраўды дэмакратычным. На жаль, быў час, калі і ў нас на Радзіме дэмакратыю парушалі. Напрыклад, я да вайны жыў на вёсцы і ведаю, што ў нашай акрузе многія людзі пацярпелі нявінна па даносах. Можна было абвінаваціць чалавека ў чым хочаш, прадставіць ілжывых сведак, і яго адсылалі ў турму. Не было сапраўднай дэмакратыі і ў калгасах. Старшыня і брыгадзіры маглі рабіць, што хацелі. Галоўнае — даць справаздачу па паказчыках. Напрыклад, каб было больш засеяных гектараў, можна было сеяць праз баразну. Людзі гэта ведалі, але маўчалі, бо начальства заўсёды магло запісаць нездаволеных у стан «ворагаў народа». Усё гэта было. І вельмі радасна, што зараз пра гэта пішуць і гавораць і такое самадурства ўжо немагчыма. Але нават і тады ў савецкіх людзей было куды больш дэмакратычных правоў і свабод, чым у капіталістычных краінах. Не было беспрацоўных, галодных, бяздомных. Права на працу, адпачынак, адукацыю, медыцынскае абслугоўванне і многае іншае было і ёсць рэальнасцю. Таму магу сказаць, што калі названыя мною недахопы сапраўды выкаранены, дык тады буржуазная дэмакратыя не можа ісці ні ў якое параўнанне з савецкай.

На Захадзе шмат крычаць аб парушэнні правоў чалавека ў Савецкім Саюзе. Але давайце паглядзім, што робіцца ў саміх капіталістычных краінах. Тут дэмакратыя была і застаецца толькі на паперы. А на справе правы людзей пастаянна парушаюцца. Нават у самых развітых краінах ёсць беспрацоўныя і бяздомныя, а тыя, хто мае работу, заўсёды жывуць у страху яе страціць. Ну а пра такія дзяржавы, як Турцыя, Парагвай, дзе большая частка насельніцтва жыве ў сапраўднай галечы, многія гінуць ад голада, пра Ізраіль і многія іншыя і гаварыць няма чаго. Там існуе і самы адкрыты тэрор улад у адносінах да народа. Колькі людзей гіне, прападае без вестак. Які крывавы рэжым існуе на акупіраваных Ізраілем землях. І нікога за гэта не караюць. Такая ў сапраўднасці буржуазная дэмакратыя.

Я вельмі рады, проста шчаслівы, што наш народ знайшоў у сабе сілы вызваліцца ад тых, хто бескантрольна выкарыстоўваў уладу, што ў краіне так хутка і інтэнсіўна ідзе працэс дэмакратызацыі, што «публічнасць» існуе рэальна. Гэта дае гарантыі таго, што савецкае грамадства стане ў хуткім часе сапраўды самым дэмакратычным у свеце. Жадаю вам поспехаў на гэтым шляху.

**Міхаіл МАДОРНЫ.**

ФРГ.

# РАДЫ ЗА ВАС

Добры дзень, Мінск! Добры дзень, паважаныя сябры з рэдакцыі «Голасу Радзімы»!

Вашы газеты атрымліваем не заўсёды рэгулярна. Але, калі яны прыходзяць, у мяне збіраюцца сябры і мы разам глядзім фатаграфіі і чытаем услых артыкулы. Радуемся прагрэсу нашай роднай і любімай Беларусі і просім бога, каб ён вас ахоўваў і не дапусціў новай вайны.

Я атрымліваю шмат пісем ад родных, што засталіся ў жывых. Яны мне прысылаюць кнігі, а газеты і часопісы я сам выпісваю з Радзімы. Так што я ў курсе ўсіх падзей і рады за тое, што ў вас так хутка жыццё паварочваецца ў лепшы бок.

Але хачу напісаць вось пра што. Усе пасылкі прыходзяць да мяне разарванымі і ў абшарпаным выглядзе. Раз я пайшоў на пошту і заявіў пратэст. Дык мне начальнік без усялякага сораму сказаў, што павінны ж яны ведаць, што там мне прысылаюць з Савецкага Саюза, таму і рвуць пасылкі. Вось такая ў іх дэмакратыя. А калі што ім не падабаецца, дык проста выкідваюць, і потым канцоў не знойдзеш. Таму і прыходзяць да нас газеты і часопісы нерэгулярна. Яшчэ выпадак з нашай поштай. Мы з роднымі пачалі заўважаць, што рэдка мае пісьмы даходзяць да іх. Думаю, чаму? Усё аказалася проста. У нас пісьмо за мяжу нясеш на пошту сам, плаціш грошы і аддаеш яго служачаму. Дык вось я заўважыў, што грошы яны проста кладуць у кішэню, а пісьмо выкідваюць. Цяпер я заўсёды павінен стаяць да таго часу, пакуль ён не прадрукуе цану аплаты праз машыну на маім пісьме і не пакладзе яго ў спецыяльную скрынку.

Але зараз усё-такі дэмакратыі ў нас становіцца больш. Бо некалькі гадоў назад, калі тут быў ваенны ўрад, мне давялося адмовіцца ад усіх газет і часопісаў. Іначай можна было б і з жыццём развітацца. Вельмі многа людзей — перадавых рабочых і партыйных дзеячаў — прапала тады. Цяпер хоць гэтага няма. Але ўсё роўна кожны тыдзень даражэюць прадукты і адзенне, рабочыя бастуюць, просяць надбаўкі. І мы, пенсіянеры, таксама патрабуем павелічэння пенсіі.

Яшчэ раз дзякуй за газету «Голас Радзімы». Яна тут для нас, як родны брат з любімай Беларусі.

**Фёдар КРЭДЭНСІР.**

Аргенціна.

# ХАЧУ ПАРАІЦЬ

Я з задавальненнем гатовы прыняць удзел у размове чытачоў пра дэмакратыю, якую вы ведзяце ў вашай газеце. Добра ведаю, што гэтае пытанне займае важнае месца ў адносінах вашай краіны з іншымі дзяржавамі. У апошні час многія заходнія краіны, у тым ліку ЗША, прад'яўляюць шмат надуманых і неабгрунтаваных прэтэнзій СССР наконт правоў чалавека. І ў той жа самы час забываюць аб правах чалавека ў сваіх уласных краінах і [illegible]бліва ў ЗША, якія з'яўляюцца несум[illegible] самай багатай краінай свету, перадавой ва ўсіх галінах вытворчасці, асабліва тавараў шырокага ўжытку. Але тут само сабой узнікае пытанне. А ці ўсе грамадзяне, нават такой самай багатай краіны ў свеце, як ЗША, маюць правы, або, больш правільн[illegible] гаворачы, магчымасць набыць усе гэтыя [illegible]ы шырокага ўжытку для сябе і для сва[illegible]сем'яў? Адказ на гэтае пытанне несуцяшальны — далёка не ўсе.

Вось што гаворыць з гэтай прычыны амерыканская статыстыка за апошнія гады. У ЗША налічваецца зараз каля 9 мільёнаў беспрацоўных. І гэта толькі тыя, хто пасля звальнення з работы па тутэйшаму амерыканскаму закону атрымаюць 30 грашовых чэкаў як часовую дапамогу па беспрацоўю. Зроблена гэта для таго, каб на працягу атрымання гэтай дапамогі даць ім магчымасць знайсці іншую работу. Калі ж ім усе 30 чэкаў будуць уручаны, то пасля гэтага, незалежна ад таго, знайшлі яны сабе іншую работу ці не, іх поўнасцю выкрэсліваюць са спіска як беспрацоўных. І такіх выкрэсленых налічваецца, на жаль, каля 11 мільёнаў чалавек. Такім чынам, атрымліваецца не вельмі прывабная карціна, ці не праўда? Акрамя гэтых беспрацоўных, нельга таксама забываць і 4 мільёны бяздомных, прозвішчы якіх таксама не ўваходзяць у спісак статыстыкі.

Вы, несумненна, і самі чыталі ў савецкай прэсе, што за апошнюю зіму каля самога Белага дома ў Вашынгтоне ў халодную марозную ноч замерзла некалькі амерыканскіх ветэранаў 2-й сусветнай вайны, якім такія ж самыя таварышы па няшчасцю, бяздомныя бадзягі, наладзілі маленькія сціплыя пахаванні. Да якой жа ступені подласці, бесчалавечнасці, маральнага падзення дайшоў амерыканскі імперыялізм, у тым ліку і адміністрацыя Р. Рэйгана, калі ў багатай краіне магло здарыцца такое, што нацыянальныя героі 2-й сусветнай вайны, якія змагаліся разам з саюзнымі войскамі супраць агульнага ворага — гітлераўскага фашызму, аказаліся без усялякай дзяржаўнай дапамогі і памерлі пад плотам Белага дома ў халодную зімовую ноч! Вось такі гонар і павагу аказвае Амерыка ў сучасны момант сваім ветэранам, якія ў вайну праявілі сябе шчырымі патрыётамі сваёй радзімы і пралівалі за яе кроў. Што ж, можна тут прывесці словы адной амерыканскай прагрэсіўнай пісьменніцы Марыі Е. Марсі з яе кнігі «У цябе няма радзімы»: «Сістэма прыбытку з'яўляецца прычынай усіх войнаў сёння. Мы вам гэта дакажам, і такім чынам вы дазнаецеся пра факты нават у такім выпадку, калі вы аб гэтым ніколі не думалі ў вашым жыцці». І далей: «Што «твая» радзіма калі-небудзь зрабіла для цябе, пан Рабочы? Ці была яна сапраўды радзімай для цябе? Ці дала яна табе дабрабыт? Ці дала яна табе магчымасць мець зімой цёплы дом? Ці глядзела яна за тым, каб ты меў адзенне і ежу? Ці накарміла яна тваіх дзяцей і забяспечыла сонечным святлом і школай і часам для гульняў, каб прыстасаваць іх для жыццёвай работы?

Калі ты быў дзіцем, ці працягвала твая краіна свае рукі для тваёй абароны і ці давала табе ежу, адзенне і дах над галавой? Або твой бацька з рабочага класа і маці павінны змагацца, каб даць табе месца для ежы і для спання? Ц[illegible]ць хоць адно месца ва ўсёй «тваёй» кра[illegible] дзе ты можаш адпачываць і жыць, і спаць спакойна, не робячы штотыднёвага або штомесячнага ўзносу гаспадару? Або, калі ты не маеш грошай заплаціць за кватэру і не маеш работы, каб зарабіць грошы на аплату кватэры, ці прыходзіць «твая» краіна табе на дапамогу і ці дае табе работу, або [illegible] «твая» краіна прысылае да цябе шэрь[illegible] або якога-небудзь другога гарадскога чы[illegible]ўніка, каб выкінуць цябе на снег, і другога чыноўніка, каб ён вывез цябе за горад з дубінкай, рэвальверам і «рухайся»? і г. д.

Вось гэта якраз і ёсць так званы другі бок медаля пралетарскай Амерыкі, так рэалістычна і аб'ектыўна апісаны пісьменніцай Марыяй Е. Марсі. Да яе голасу не пашкодзіла б прыслухацца ўсім тым, хто ўжо занадта ідэалізуе амерыканскую капіталістычную сістэму і гучна падпявае яе ўнутранай і знешняй палітыцы. Быў жа ў нас нядаўна такі выпадак: прыехала да нас у Амерыку з СССР турысцкая дэлегацыя ў складзе некалькіх чалавек і наведала заадно мэра горада Нью-Йорка пана Коча. Адзін з дэлегатаў задаў яму талковае пытанне: «Якім чынам ваш урад дапусціў да таго, што ў вас у Амерыцы цяпер звыш 4 мільёнаў бяздомных?» На гэта мэр Коч яму цынічна адказаў: «Мы, амерыканцы, якраз, наадварот, ганарымся гэтым, бо ў нас самая найбольшая неабмежаваная дэмакратыя і свабода ў свеце. І калі хто-небудзь з нашых грамадзян жадае «добраахвотна» стаць бяздомным, дык наш урад і ўлада гэта дазваляюць». Пасля гэтага дыялогу з мэрам Кочам адзін з былых савецкіх яўрэяў у нашым горадзе Філадэльфіі з так званай 3-й эміграцыі вырашыў пазваніць пану Кочу ў Нью-Йорк па тэлефоне і спытаў яго: «Калі вы, пан Коч, сцвярджаеце, што ў Амерыцы кожны яе жыхар мае поўнае права стаць «добраахвотна» бяздомным, дык чаму ж вы самі не станеце «добраахвотна» бяздомным?» На гэта мэр Коч адказаў поўным маўчаннем, бо ў такога занадта разумнага чалавека, якога жыхары горада Нью-Йорка выбралі сваім мэрам, на жаль, не знайшлося ніякага адказу на гэтае талковае пытанне.

Міжволі задаеш сабе пытанне, аб якіх абмежаваннях правоў чалавека ў СССР вядуць гаворку прадстаўнікі заходніх «дэмакратый», калі столькі праблем ва ўласным доме? Вось чаму такім панам, як Коч, Ракфелер, Морган і г. д., хацелася б параіць: замест таго, каб займацца бессэнсоўнай дэмагогіяй пра быццам бы ўшчэмленыя правы чалавека ў СССР, сур'ёзна разабрацца з жудасным становішчам мільёнаў сваіх суайчыннікаў, працай якіх яны стварылі і ствараюць свой уласны дабрабыт.

**Аляксандр КРАШАНІННІКАЎ.**

ЗША.

### КОМПЕТЕНТНЫЙ УЧЕНЫЙ ОБ ИСТОРИЧЕСКОЙ ПОВЕСТИ ПИСАТЕЛЯ

# СЛУЖЕНИЕ ПРАВДЕ

**С сегодняшнего номера редакция начинает публикацию фрагментов из документальной повести Эрнеста Ялугина «После небытия». Но прежде чем читатель перевернет страницу газеты и углубится в чтение, окунется во время Дмитрия Жилуновича, выдающейся личности в нашей истории, будет следить за событиями, свидетелем и участником которых он был, мы предлагаем вступительное слово доктора юридических наук, профессора Вадима КРУТАЛЕВИЧА.**

Опубликованная в «Нёмане» (1988, № 2) документальная повесть Эрнеста Ялугина «После небытия» имеет все основания, чтобы привлечь внимание широких читательских кругов. Ее тема важна и злободневна. Герой повести — Дмитрий Федорович Жилунович (Тишка Гартный) — один из зачинателей белорусской советской литературы, общественный и государственный деятель, возглавивший в 1919 году Временное революционное рабоче-крестьянское правительство самоопределившейся Белоруссии.

Трагична судьба Д. Жилуновича, разделившего участь многих других белорусских интеллигентов — жертв сталинских репрессий. В декабре 1928 года республика отметила 20-летие литературной и общественной деятельности Д. Жилуновича. Но вскоре на юбиляра обрушились гонения, публичные шельмования, обвинения в тяжких государственных преступлениях, длившиеся ряд лет, финалом чего было самоубийство в Могилевской психолечебнице в феврале 1937 года.

Э. Ялугин поставил перед собой благороднейшую задачу — восстановить историческую правду о замечательном человеке, великом труженике, отдавшем свой ум, талант и энергию на благо народа. Жанр произведения потребовал от автора кропотливого труда по изучению документальных и других источников, их критическому анализу. И действительно, читая повесть, неизменно ощущаешь добротность ее фактической основы. И даже тогда, когда автор, казалось бы, «спускает с поводка» творческое воображение, описания достоверны и правдоподобны. Увлекшись, автор временами предстает перед читателем скорее как профессионал-историк, нежели писатель. В повести немало документальных текстов, но они логично вплетаются в ткань повествования, давая читателю пищу для собственного, «суверенного» осмысления материала.

В повести четко обозначены этапы жизненного пути Д. Жилуновича от трудного детства и до трагической кончины. С интересом читаются страницы, посвященные становлению героя повести как личности, формированию его общественно-политической позиции. Рабочий кожевенных мастерских (гарбарняў), Д. Жилунович близко воспринимает социал-демократические идеи национального раскрепощения. Печатается в «Правде».

После свержения самодержавия Д. Жилунович активно втягивается в политическую жизнь, становится одним из лидеров национально-демократического движения. Октябрьская социалистическая революция открыла перед ним новые горизонты видения путей социального переустройства и национального раскрепощения, тесную органическую взаимосвязь этих процессов. Став редактором первой белорусской советской газеты «Дзянніца» и секретарем Белорусского национального Комиссариата при Народном комиссариате по делам национальностей, Д. Жилунович сделал свой ответственнейший политический выбор.

В повести много внимания (и это правомерно) уделено участию Д. Жилуновича в решении вопросов национальной политики. Борьба сторонников и противников самоопределения Белоруссии, в которой он принимал самое активное участие, отстаивая идею образования белорусского советского государства, — один из интереснейших сюжетов повести.

В условиях социалистического строительства 20-х годов во всей полноте проявилась творческая энергия Д. Жилуновича — писателя, публициста, государственного и общественного деятеля. Его особенно волнуют пути развития национальной культуры, языка, развернувшаяся в республике белорусизация.

В заключительной части Э. Ялугин вводит читателя в обстановку 30-х годов, показывает кошмарные испытания, через которые пришлось пройти герою повести. Прикрываясь марксизмом-ленинизмом, а на деле извращая и вульгаризируя великое учение, разоблачители т. н. белорусского национал-демократизма сеяли клевету, возбуждали ненависть к жертвам гонений. В чаду навязываемой общественному сознанию подозрительности и шпиономании морально сломленных, затерроризированных «нацдемов» инквизиторы принуждали каяться в содеянных «злодеяниях». Эту же чудовищную моральную пытку вслед за Я. Купалой и Я. Коласом пришлось перенести и Д. Жилуновичу.

...На сотне журнальных страниц трудно вместить все важное, что относилось к теме повествования. О службе Д. Жилуновича в Красной Армии лишь упоминается. Хотелось бы видеть более развернутыми сюжеты, характеризующие его творческую, литературно-публицистическую деятельность, воздействие на литературный процесс.

Подлинно творческая мысль критична и самокритична. Автор самостоятелен в оценках событий и процессов, использованных литературных и документальных источников. Кстати, эта сторона произведения заслуживает того, чтобы быть предметом углубленного рассмотрения. Коснемся отдельных суждений, дающих повод к дискуссии. Э. Ялугин по сути отвергает устоявшуюся традиционную характеристику социально-классовой направленности Белорусского съезда, распущенного Совнаркомом Западной области с помощью солдат в декабре 1917 года за попытку узурпации государственной власти. Скорее правомерен был [illegible]ругой подход: была ли альтернатива [illegible]згону съезда? Пожалуй, была. А. Мясников, который во время названных драматических событий замещал в Могилеве Верховного главнокомандующего считал, что минским большевикам нужно было на съезде развернуть борьбу, добиться раскола съезда, попытаться [illegible]вать на свою сторону его большинс[illegible].

В трактовке причин образования Литовско-Белорусской советской республики недостаточно учитывается внешнеполитический фактор. И другой момент. Как свидетельствуют документы, идея слияния республик шла из центра. А. Иоффе был лишь исполнителем решений ЦК РКП (б).

В объяснении ошибок и заблуждений в проведении национальной политики в Белоруссии, на наш взгляд, преувеличенное значение придается национальной принадлежности того или иного должностного лица. Кое-где «проскакивают» фактические неточности. В одних случаях автора подвели устаревшие источники, в других — сказалась сложность и запутанность исторической ситуации. В частности, агрессия Польши против советских республик началась не в апреле 1919 года, а значительно раньше.

В 1917 году Смоленская губерния не входила в состав Западной области. Вторичное провозглашение БССР состоялось не 30, а 31 июля 1920 года. Административная комиссия при ВЦИК (1918 год) не предлагала на территории России ликвидировать «всякое национальное деление и создать три областные коммуны». Сомнителен факт, что Белорусская народная республика «получала оружие у Антанты в счет будущих поставок сырья из Белоруссии». Все это частности, но лучше, разумеется, без них.

С глубоким удовлетворением и чувством признательности автору за достойное служение правде переворачиваешь последнюю страницу повести. Проникновенны заключительные строки: «Еще в 1952 году я слышал от коренных могилевчан о том, что в их городе провел свои последние скорбные дни глава первого белорусского правительства. Место, где он похоронен в братской могиле, не забыто, оказывается, и поныне. Может, со временем там станет обелиск. Кто-то выбьет надпись и на этом памятном камне нашей с вами, читатель, истории».

Хотелось бы, чтобы надпись напомнила потомкам: то, что случилось, не должно повториться. И подумалось: не время ли нынешнему поколению граждан нашей республики позаботиться о том, чтобы памятник знаменитому гарбару был воздвигнут в Минске.

**Вадим КРУТАЛЕВИЧ.**



**Памятник белорусскому поэту Максиму Богдановичу возле оперного театра в Минске.** **Фото В. ШУБЫ.**

### ИХ СЧИТАЛИ ЖИВЫМИ СУЩЕСТВАМИ

# СУДЬБА РУССКИХ КОЛОКОЛОВ

Большой набатный колокол древнего города Углича публично высекли плетьми, отрубили ему ухо, вырвали язык и отправили в ссылку в далекую Сибирь.

Вина колокола состояла в том, что он первым известил о смерти царевича Дмитрия и поднял на бунт угличских жителей против боярина Бориса Годунова, который, как они считали, был замешан в убийстве царевича. Это случилось в 1591 году. Бунт был жесто[illegible] подавлен, а колокол сослан в [illegible]льск, где «отбывал наказание» более трех веков.

Издавна на Руси колокола, которые крестили и освящали миропомазанием, считали чуть ли не живыми существами. [illegible] наделяли именами, характерам[illegible]юбили или ненавидели, чтили и уважали или подвергали наказаниям. У них были свои судьбы, тесно связанные с судьбами народа.

Колокола принимали самое непосредственное участие в жизни людей. Они были и часами, отсчитывавшими время, извещали о пожаре, о приближении неприятеля, звонили при встрече высокого гостя, сообщали о важных государственных или местных событиях. Люди верили, что колокол может творить чудеса: уберечь от эпидемии, прекратить засуху и голод, оградить от разбоя.

Звон колоколов был прежде так же привычен на Руси для каждого человека, как, скажем, теперь автомобильный шум для жителя большого современного города. Колокольные звоны, которые были известны на Руси уже в X веке, стали разновидностью и частью народной культуры.

Самый известный из колоколов — Царь-колокол, названный так за свой колоссальный вес и размеры. Это самый большой колокол в мире. Вес его — 200 тонн при высоте 6 метров 14 сантиметров и диаметре в основании 6 метров 60 сантиметров. Колокол был отлит в 1733—1735 годах братьями Моториными. Однако звонить ему так и не пришлось. В 1737 году в Москве произошел пожар, во время которого колокол, находившийся в отливочной яме, дал трещины. От него откололся осколок весом 11,5 тонны. И лишь почти столетие спустя Царь-колокол был поднят и установлен на постамент в Кремле как памятник русского художественного литья.

Вообще в музеях Московского Кремля находится 32 колокола. 27 из них относятся к XVI—XIX векам и были отлиты в Москве специально для колокольни Ивана Великого и кремлевской звонницы. Так как Московский Кремль был политическим центром Руси, то для его колокольни, бывшей в то время символом величия Москвы и Русского государства, отливались наиболее крупные колокола лучшими литейщиками. Например, колокол «Успенский» весит около 65 тонн, «Реут» — около 32 тонн, «Великопостный» — 13 тонн.

Самые ранние колокола в кремлевской коллекции датируются второй половиной XVI века. До нашего времени сохранилось только три таких колокола. Два из них отлиты псковским мастером Нестером Ивановым — один в 1554, другой — в 1559 году. Основным украшением этих колоколов являются надписи, расположенные поясами.

Знаменитые ростовские звоны некогда были известны по всей Руси. В Ростов Великий многие люди приезжали специально, чтобы послушать ростовские колокольные переливы. Судя по сохранившимся летописям, первые колокола в Ростове появились еще в XII веке. А Ростовская звонница Успенского собора окончательно сложилась к 1689 году, когда на ней появились 13 уникальных колоколов. Во второй половине XIX века были установлены еще два колокола, которые практически не изменили общего фона звучания старого колокольного «оркестра».

Самый большой и известный из ростовских колоколов — «Сысой». Вес его 32 тонны, «рост» — более двух с половиной метров, диаметр у основания — более трех с половиной метров. Отлит он был в 1688 году знаменитым колокольным мастером Флором Терентьевым, строго хранившим свои секреты литья. Говорят, что когда более чем полуторатонный язык «Сысоя» ударял в колокол, голос его был слышен в окрестностях на десятки километров. Вместе с ним «пели» и 16-тонный «Полиелейный», и 8-тонный «Лебедь», и другие ростовские колокола, создавая неповторимый, волшебный ростовский звон.

Судьба у «Сысоя» и его братьев сложилась непросто. В начале XVIII века их чуть было не перелили на пушки, которые были нужны русской армии после поражения под Нарвой от шведов, — тогда ростовская митрополия и жители смогли откупиться золотом. Ростовчане не раз спасали колокола от многочисленных пожаров, порой ценой собственной жизни. В 1928 году под лозунгом «Долой религиозный дурман» колокольный звон в Ростове был запрещен, а спустя два года закрыт и сам Успенский собор.

В минувшем году, в честь 1125-летия Ростова, знаменитые ростовские колокола вновь «запели», возродив свою давнюю традицию. А нынешней весной на звоннице Ростова торжественно открылся новый концертный сезон. Окрестности древнего города огласили неповторимые колокольные перезвоны.

**В. ЩУКИН.** (АПН).

